**№98 (1661)**

Аўторак, 3 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +17...+19, уначы — +4...+6; у Брэсце ўдзень — +22...+24, уначы — +11...+13; у Гродне ўдзень — +20...+22, уначы — +7...+9; у Віцебску ўдзень — +12...+14, уначы — +4...+6; у Гомелі ўдзень — +16...+18, уначы — +4...+6, у Магілёве ўдзень — +14...+16, уначы — +3...+5. Па ўсёй краіне захаваецца сонечнае надвор'е, без ападкаў.

*www.meteo.by*



## Пасольства ЗША занепакоена актамі вандалізму ў Беларусі

Пасольства ЗША ў Беларусі выказала глыбокую занепакоенасць актамі вандалізму, якія былі ўчынены на працягу гэтага тыдня ў некалькіх беларускіх гарадах, уключаючы Мінск.

У прыватнасці, 25 мая невядомыя вандалы сур'ёзна пашкодзілі мемарыяльную лаўку ва ўрочышчы Курапаты. Гэтая лаўка — дар народа Злучаных Штатаў народу Беларусі — была перададзена прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам падчас яго візіту ў Беларусь у 1994 годзе.

У заяве пасольства, распаўсюджанай 30 мая, зазначаецца, што гэта ўжо другі выпадак пашкоджання лаўкі вандаламі. Пасольства ЗША давяло да ўрада Беларусі, што калі бяспека гэтай лаўкі не можа быць гарантавана, то "пасольства гатова прадаставіць для яе належнае месца на сваёй тэрыторыі датуль, пакуль яе захаванасць не будзе забяспечана на яе законным месцы ў Курапатах".

Апроч таго, пасольства выказала занепакоенасць актам вандалізму на мемарыяле ахвярам Халакоста "Яма" ў Мінску.

Пасольства ЗША заклікала беларускі ўрад расследаваць акты вандалізму і "прыняць неабходныя захады па абароне гэтых і іншых месцаў гістарычнага і рэлігійнага значэння".

**Аляксей ШЭІН.**

## Вяртаюцца камісары

**Памятаецца, у часы, калі шмат хто з мужчынскага насельніцтва Беларусі, у тым ліку і я, насілі на сваіх плячах літары "СА", што значыла "савецкая армія", існавала пэўная катэгорыя службовых асоб у арміі, якая карысталася рэпутацыяй выключных лайдакоў, ляніўцаў і пустабрэхаў. Да гэтай катэгорыі адносілі так званых "замполитов" (у былым — камісараў) ці, гаворачы поўнасцю па-беларуску, намеснікаў камандзіра па палітычнай частцы. Камісары не займаліся баявой падрыхтоўкай вайскоўцаў, не вывучалі ваенную справу, не абслугоўвалі складаную вайсковую тэхніку... Яны ўбівалі ў маладыя салдацкія галовы адзіна правільную палітыку кіруючай камуністычнай партыі.**

Як сказана ў вядомым фільме, "яны час ад часу вяртаюцца". Яны — гэта камісары. На гэты раз — у Беларусі, у вобразе намеснікаў кіраўнікоў прадпрыемстваў па ідэалагічнай працы, прычым не толькі на дзяржаўных прадпрыемствах, але і на прыватных. Міністэрства працы і сацыяльнай абароны разаслала па прадпрыемствах інструкцыю аб службовых абавязках намесніка кіраўніка па ідэалагічнай працы. Новая пасада ўнесена ў агульнадзяржаўны рэестр і кваліфікацыйны даведнік.

Згодна з новай міністэрскай інструкцыяй, ад сучаснага камісара патрабуецца "правільна растлумачваць унутраную і знешнюю палітыку дзяржавы, згуртаваць работнікаў і выхоўваць у іх пачуццё патрыятызму і адказнасці за лёс краіны". Камісар павінен "дакладваць кіраўніцтву аб сацыяльнапсіхалагічным клімаце ў калектыве, кантраляваць працу мясцовага радыёвузла, насценнага і іншага друку".

Аляксандр Патупа, прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі, які таксама атрымаў адпаведную інструкцыю з Мінпрацы, выказвае такое меркаванне: "Звычайна ідзе масавы ідыятызм, прыступ таго, каб паставіць краіну ў смешнае становішча".

Вяртанне на прадпрыемствы нью-камісараў аналітыкі называюць чарговым крокам па зачыстцы інфармацыйнага поля перад магчымым рэферэндумам аб трэцім тэрміне прэзідэнта. Рэпрэсіям у апошні час, як вядома, падвергліся незалежныя агульнанацыянальныя і мясцовыя выданні. Зараз улады ўзяліся нават за насценны друк і баявыя лісткі...

**Алесь СІЛІЧ.**

# Апошні званок... для беларускай мовы

## *У апошні дзень вясны для выпускнікоў 2003 года празвінеў апошні званок*

Зразумела, не мог прапусціць такую падзею ў жыцці сваёй старэйшай унучкі і я.

Былі і ўрачыстыя прамовы, і жартаўлівыя выступы з падлікам тон з'едзенага за гады вучэння хлеба, выпітай гарбаты, кампоту і іншых напояў. Бачыў я радасныя твары школьнікаў, якія развітваліся з дзяцінствам, і слёзы на вачах настаўнікаў. Яны развітваліся з часцінкай сваёй душы.

Мне было сумна. Школа, на жаль, так і не навучыла маю ўнучку размаўляць па-беларуску. А першага ж верасня 1992 года мама прывяла яе менавіта ў беларускую школу, дзе ўсе прадметы выкладаліся тады на беларускай мове.

А потым быў 1994 год — і кіраўніком нашай дзяржавы стаў А.Лукашэнка. У 1996 годзе, калі адбыўся сумнавядомы рэферэндум, пасля якога вучыць у школе, дзе займалася мая ўнучка, сталі па-руску...

І вось урачыстасці ў гэтай школе беларускай сталіцы: яны праводзіліся на рускай мове. Па-руску былі зроблены надпісы на стужках "Выпускник-2003". Па-руску — загад дырэктара аб допуску да экзаменаў. Па-руску — песні, якія гучалі на ўрачыстасці. Хаця — не: песні выконваліся і па-англійску — школа ж спецыялізаваная. А беларускіх песень я так і не пачуў. Нават настаўніцу беларускай мовы выпускнікі віншавалі... па-руску.

Не забылі ў гэты ўрачысты момант нагадаць усім аб тым, што менавіта руская мова — вялікая і магутная і называлі імёны вялікіх рускіх пісьменнікаў Дастаеўскага і Талстога. А пра выдатных волатаў беларускага духу і пяра — ні слоўца...

І ўсё ж: у добры шлях, выпускнікі 2003 года! Хай паўсюль і ва ўсім вас чакае поспех, хай здзейсняцца вашы самыя дзёрзкія мары. Толькі ніколі на вялікім жыццёвым шляху не забывайцеся, што вы — дзеці Беларусі.

**Валерый ШЧУКІН,**
**выпускнік СШ №18 г.Мінска 1959 года.**



*Выпускніца Вольга Жыжэнка з Брагінскага раёна.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

# Союзное государство Путин скорее построит с Бушем

*В воскресенье 1 июня Путин и Буш в Питере элегантно закрыли иракский вопрос. Они дали понять, что инцидент исчерпан и Москва с Вашингтоном намерены продолжать стратегическое партнерство. Президенты тут же продемонстрировали это на деле, обменявшись грамотами о ратификации Договора о сокращении наступательных потенциалов.*

*Рандеву российского лидера с американским было куда более продолжительным, а главное — плодотворным, нежели мимолетное общение накануне с белорусским руководителем. Впечатление таково, что союзное государство Путину легче было бы построить с Бушем, чем с Лукашенко.*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Свита последнего в это время героически преподносила в основном спонтанные контакты своего начальника в праздничной толчее как насыщенное международное общение на высшем уровне. Особенно интересно было узнать, что вдруг обнаружились колоссальные перспективы сотрудничества с Мальтой.

Хотя если поразмыслить, то поучиться есть чему. На этом маленьком острове в Средиземном море доход на душу населения на порядок выше, нежели в стране победившего рыночного социализма, — 12,9 тысячи долларов там выходило еще по статистике 1997 года. Иначе говоря, в месяц набегает больше чем по тысяче на каждого, включая младенцев. У нас же столько звона было вокруг пресловутых ста долларов, да и те стрескало чудовище по имени ЖКХ! Далее, мальтийцы снимают сливки с благоприятного климата — нет, не столько природного, сколько инвестиционного. Не боясь, что олигархи сгубят родину, их правительство широко пустило в страну британский капитал к большой выгоде собственного населения. Мальта также выжимает максимум дивидендов из своего географического положения. Беларусь в транзитном плане расположена не менее, а скорее даже более выгодно, но — увы... Не будем о грустном.

Вернемся к торжествам в северной столице России. Джордж Буш, сделав реверанс перед хозяином, сказал, что разногласия вокруг Ирака были не столь уж и велики. А также пообещал повлиять на своих конгрессменов в смысле отмены обидной для Москвы поправки Джексона — Вэника (она плохо влияет на российскую внешнюю торговлю). Американский президент давно не против, но там, как видим, парламент с характером, так что надо лаской. Обойти же законодательный орган никак нельзя. Указы и декреты у этих заокеанских чудаков почему-то не практикуются.

Теперь, наверное, вопрос с Джексоном — Вэником наконец решат. Потому что Путин вовремя снял напряжение в двусторонних отношениях. Накануне операции против Хусейна Москва под влиянием старых дипломатических стереотипов перегнула палку, пригрозив Штатам применить вето в Совбезе ООН. Кремль, однако, быстро спохватился и ушел от невольной роли защитника саддамовской тирании. Это в Минске до сих пор продолжают размахивать картонным антиамериканским мечом. Телодвижения выглядят смешно и нелепо, и любому ясно как божий день, что провозглашенная в свое время тесная координация внешней политики в рамках Союзного государства — такая же фикция, как и сама эта бутафорская держава. Путину не о чем говорить с Лукашенко на тему интеграции после крылатой фразы о том, что мухи должны быть отдельно от котлет.

Глядишь, скоро у России и впрямь будет больше общего с далекой Америкой, чем со "славянской сестрой" Беларусью. Пусть мучительно, но прививаются в России принципы рынка, демократии, прав человека. По крайней мере, лидеры — Путин с Бушем — в этом плане говорят на одном языке. Буквально через день после торжеств в Питере они снова встретятся на саммите "большой восьмерки" во французском Эвиане. Официальный же Минск остается вне игры. И дело тут не в масштабах стран (миниатюрная Япония входит в эту самую восьмерку). Дело в масштабе мышления лидеров. Невозможно вписаться в глобальные процессы XXI века, исповедуя замшелую идеологию селекторов, "Дожинок" и "охоты на ведьм".

КАНФЛІКТ

# Дзяржаўныя журналісты паказваюць зубы

Спосаб інфармавання дзяржаўнымі СМІ аб сітуацыі вакол масавага захворвання жыхароў Гродна серозным менінгітам выклікаў незадавальненне кіраўніцтва Гродзенскай вобласці. Яго агучылі Уладзімір Амелька, кіраўнік упраўлення інфармацыі аблвыканкама і Сяргей Дубавец, кіраўнік аддзела інфармацыі гарвыканкама. Абурэнне чыноўнікаў выклікала асвятленне візіту ў Гродна намесніка міністра аховы здароўя Валерыя Ключэўскага. Згодна з іх меркаваннем, гродзенскае тэлебачанне здымала міністра "ў кусціках" і несвоечасова пусціла інфармацыю ў эфір.

На наступны дзень пасля прэс-канферэнцыі, на якой былі агучаны абвінавачанні ў бок журналістаў кіраўніцтва Гродзенскага абласнога тэлерадыёаб'яднання, распаўсюдзіла заяву і абвінаваціла ўпраўленне інфармацыі ў непрафесіяналізме і бяздзеянні. "Наша інфармацыя заснавана на інтэрв'ю кіруючых і адказных работнікаў, паколькі ўпраўленнямі інфармацыі абл- і гарвыканкамаў не былі падрыхтаваны афіцыйныя прэс-рэлізы і не арганізавана праца па асвятленні гэтай важнейшай для рэгіена праблемы", — гаворыцца ў афіцыйнай заяве.



Падобнага ў гісторыі гродзенскага тэлебачання яшчэ не было. Супрацьстаянне маладога і амбіцыйнага Пярцова (на здымку злева), мэтай якога з'яўляецца падняцце папулярнасці мясцовага тэлеканала, і кіраўніцтва вобласці, якое прызвычаілася трымаць журналістаў на кароткім павадку, ад самага пачатку выдавалася непазбежным. Але "публічныя стрэлы" ў гэтай неаб'яўленай вайне прагучалі толькі цяпер. Захоўваючы вернасць палітычнаму накірунку, абранаму кіраўніцтвам краіны, гродзенскае тэлебачанне спрабуе рабіць цікавыя і аб'ектыўныя мясцовыя матэрыялы. Чыноўнікам з аблвыканкама такое свавольства не па душы.

Скандал вакол менінгіту перавыжыў чашу цярпення мясцовай "вертыкалі". Не выключана, што гучны абмен заявамі — толькі пачатак сур'ёзнай схваткі за гродзенскі эфір.

Работнікі тэлерадыёаб'яднання, з якімі ўдалося паразмаўляць на гэты конт, тлумачаць дзеянні кіраўніцтва зусім не адданасцю патрабаванням журналісцкай этыкі, а наяўнасцю ў Пярцова шчыльных кантактаў з кіраўніцтвам Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, што дазваляе яму быць дастаткова незалежным ад гродзенскай "вертыкалі". Наколькі хопіць гэтай незалежнасці, пакажа бліжэйшы час.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## Закрытие газет — это нарушение прав сотен тысяч граждан Беларуси

### Заявление Объединенной гражданской партии

Решение Министерства информации Беларуси о приостановлении выхода одного из самых популярных изданий — "Белорусской деловой газеты", вынесение предупреждений ряду газет, включая самую тиражную независимую газету "Народная воля", свидетельствуют о начале новой широкомасштабной зачистки информационного пространства страны.

Власть теряет поддержку в обществе. Политику режима, согласно данным социологических опросов, одобряют не более 20% граждан, личный рейтинг А.Лукашенко опустился к отметке 25%. Тиражи государственной прессы, несмотря на миллиардные дотации, стремительно падают. Население предпочитает официальной пропаганде негосударственные носители информации.

В этих условиях независимая общественно-политическая пресса становится одной из реальных угроз для белорусского режима. Вынесение предупреждений изданиям и их сотрудникам, закрытие газет, судебные процессы над журналистами — это те методы, с помощью которых режим пытается придушить прессу, принудить газеты к самоцензуре и превращению в пособие для дачников и рыболовов.

Инициировав процесс закрытия "БДГ" на три месяца, режим лишил десятки тысяч читателей и граждан Беларуси конституционного права на получение достоверной, альтернативной информации.

В этих условиях Объединенная гражданская партия

**предлагает:**

— общественным объединениям, политическим партиям провести совместную кампанию в поддержку негосударственных СМИ;

— Национальному собранию принять изменения в законодательство, ограждающие СМИ от произвола чиновников.

**Призывает:**

— парламентские Ассамблеи Совета Европы и ОБСЕ, Европарламент провести слушания о свободе слова в Беларуси;

— Европейский Союз, США рассмотреть вопрос о введении ограничений на передвижение для высокопоставленных чиновников, ответственных за нарушение свободы слова в Беларуси;

— международные организации оказать всемерную поддержку негосударственным СМИ в Беларуси.

## Андрэй Клімаў крычаў «біс!» Чарльзу Анзбакеру

У канцэртнай зале ліцэя Беларускага дзяржаўнага універсітэта такога, здаецца, яшчэ не было. Тут нядзельным вечарам Акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь віртуозна кіраваў амерыканец Чарльз Анзбакер. Імя гэтага чалавека ведаюць не толькі ў ЗША, але і ў Еўропе.

На гэты раз музыканты цудоўна выканалі такія класічныя творы, як уверцюра да оперы "Аберон", сімфонія №2 Роберта Шумана, "Партрэт Лінкальна" Аарона Копланда, выбранае з "Вестсайдскай гісторыі" Леанарда Бернстайна і іншыя.

Падзякай слухачоў, сярод якіх было шмат вядомых людзей, сталі бурныя апладысменты. А нядаўні вязень сумлення Андрэй Клімаў гучна крычаў "біс!".

**Пётр СІДАРЭНКА.**

## ІДЗЕ ПАДПІСКА НА «НАРОДНУЮ ВОЛЮ» НА ДРУГУЮ ПАЛОВУ 2003 ГОДА

### Шаноўныя прыхільнікі «Народнай волі»!

Мы ганарымся нашым сяброўствам.

Будзем разам і надалей.

Фінансавыя цяжкасці не дазваляюць падпісацца на паўгоддзе? Зрабіце гэта на квартал, у крайнім выпадку — на месяц-другі.

Разлічваем на тое, што бедным дапамогуць тыя, хто стаіць на нагах больш моцна.

Вы не здрадзіце нам — мы не здрадзім вам.

Адстойвалі праўду і будзем адстойваць.

Абаранялі гонар Бацькаўшчыны і будзем абараняць.

Выкрывалі авантурыстаў усіх масцей і будзем выкрываць.

**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі!**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** ________ (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ________

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету** ________ (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі ______ руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|
| | пераадрасоўкі ______ руб. | |

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

*Еще раз напоминаем: по самым низким ценам (без стоимости почтовых услуг) минчане могут оформить подписку на "Народную волю" в пунктах подписки, в магазинах и киосках "Мингорсоюзпечать". При этом газету можно будет получать в любой удобной для вас торговой точке "Белсоюзпечати". Публикуем адреса пунктов, где можно оформить подписку "До востребования". Если есть какие-то вопросы — звоните по указанным телефонам.*

## И Вы сэкономите!

### Участок подписки «Белсоюзпечать»

| | |
|---|---|
| ул.Володарского, 16, комн. 302 | 227-88-41 |

### Пункты приема подписки:

| | |
|---|---|
| ул.Жуковского, 5, корп.1 | 224-32-03 |
| пр.Ф.Скорины, 113 | 264-22-91 |
| ул.Романовская Слобода, 9 | 220-83-04 |
| ул.О.Кошевого, 8 | 230-29-20 |

### Магазины

| | |
|---|---|
| №1 ул.Жуковского, 5 | 224-03-76 |
| №2 пр.Ф.Скорины, 44 | 284-83-59 |
| №3 пр.Ф.Скорины, 76 | 232-46-23 |
| №4 ул.Ленина, 15 | 227-11-92 |
| №6 ул.Филимонова, 1 | 235-63-11 |
| №7 ул.Я.Коласа, 69 | 288-30-20 |
| №8 ул.Сурганова, 40 | 232-45-10 |
| №9 пр.Рокоссовского, 140 | 247-30-15 |
| №10 бульвар Шевченко, 7 | 233-74-88 |
| №11 пр.Пушкина, 77 | 255-80-71 |
| №12 ул.Кижеватова, 80 | 278-77-61 |
| №13 ул.Калиновского, 82, корп.2 | 264-06-42 |
| №14 ул.Володарского, 22 | 227-75-55 |
| №15 ул.Танковая, 16 | 223-82-39 |
| №16 ул.В.Хоружей, 24 | 234-27-25 |
| №17 ул.Некрасова, 35 | 231-03-28 |
| №18 станция метро "Площадь Победы" | 284-31-06 |
| №19 пр.Машерова, 51, корп.1 | 223-81-66 |
| №20 ул.Есенина, 16 | 271-87-21 |
| №21 станция метро "Пушкинская" | 255-57-20 |
| №22 ул.Илимская, 10, корп.2 | 243-16-83 |
| №23 ул.Славинского, 39 | 264-36-33 |
| №24 ул.Жилуновича, 31 | 245-05-74 |
| №25 ул.К.Маркса, 21 | 227-08-52 |

### Киоски

№2 Лингвистический университет, ул.Захарова, 21
№18 Технологический университет, ул.Свердлова, 13/4
№38 Педагогический университет, ул.Советская, 18
№78 г-ца "Юбилейная", пр-кт Машерова, 19
№95 Министерство архитектуры и строительства, ул.Мясникова, 39
№136 ст. метро "Площадь Я.Коласа", выход к Академии физвоспитания
№187 г-ца "Беларусь", ул.Сторожевская, 15
№189 Автовокзал "Московский"
№198 Экономический университет, пр-кт Партизанский, 26
№209 проходная МАЗа, ул.Социалистическая, 2
№228 Университет культуры, ул.Рабкоровская, 17
№232 Минский завод холодильников, пр-кт Машерова
№245 Больница скорой помощи, ул.Кижеватова, 56
№259 Минский государственный торговый колледж, ул.Восточная, 183
№260 пр.Ф.Скорины, 169
№262 г-ца "Планета", пр-кт Машерова, 31
№298 пр.Машерова, 75/1
№302 9-я больница, ул.Семашко, 8
№313 Слободской проезд, 24

